**№ 54 (3897)**

15 ліпеня 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

БЫЛО СКАЗАНА

*Аляксандр ЛУКАШЭНКА:*

***— Да 2015 года мы павінны наблізіць памеры заработнай платы да тысячы долараў у эквіваленце.***

*(Падчас выступлення на Усебеларускім народным сходзе 8 снежня 2010 года.)*

## Паводле прагнозаў эканамічных ведамстваў, сярэдняя зарплата па выніках гэтага года ў Беларусі павінна скласці 623,2 долара ЗША ў эквіваленце. На 2015 год рост заробкаў запланаваны зусім нязначны — 658,8 долара. А дзе ж тыя 1000 долараў, якія абяцала ўлада?



ГРОШЫ

### *Новы дзень — новы шок*

На Беларускай валютна-фондавай біржы 14 ліпеня прайшлі чарговыя валютныя таргі. Беларускі рубель зноў здаў пазіцыі.

Курс долара вырас да 10.250 беларускіх рублёў.

1 еўра каштаваў ажно 13.970 нашых рублёў.

Што ж гэта за грошы такія мы маем, якія з кожным днём робяцца ўсё танней?!

РУБАМ!

## Дык будзе рэферэндум ці не?

Летась кампанія "Гавары праўду!", рух "За Свабоду" і Партыя БНФ выступілі з ініцыятывай правядзення рэферэндуму, на якім народ сваім рашэннем вызначыць далейшае развіццё краіны.

Для галасавання выбралі шэсць найбольш папулярных і важных пытанняў:

1.Ці згодныя вы, што ў дзяржаўных установах адукацыі і аховы здароўя ўсе паслугі грамадзянам Беларусі павінны аказвацца бясплатна?

2. Ці згодны вы, што кіраўнікі выканкамаў гарадоў, раёнаў, абласцей павінны выбірацца прамым галасаваннем грамадзян?

3. Ці падтрымліваеце вы курс на эканамічную інтэграцыю, асацыяцыю і стварэнне бязвізавай прасторы з Еўрапейскім Саюзам?

4. Ці згодныя вы, што для забеспячэння нейтральнага статусу Беларусі ў краіне павінна быць забаронена размяшчэнне замежных ваенных аб'ектаў, ядзернай зброі, а беларускія вайскоўцы не павінны несці службу за мяжой?

5. Ці згодныя вы, што адзін і той жа чалавек не можа займаць пасаду прэзідэнта больш за два тэрміны?

6. Ці згодныя вы, што грошы, атрыманыя ад запланаванай урадам прыватызацыі, у першую чаргу павінны пайсці на кампенсацыю ўкладаў, страчаных падчас дэвальвацыі 2011 года, і стварэнне працоўных месцаў?

"Народная Воля" пацікавілася, **як на практыцы ажыццяўляецца ідэя правядзення народнага рэферэндуму**? На гэтае пытанне адказаў намеснік старшыні руху "За Свабоду" **Юрась ГУБАРЭВІЧ.**

— У падтрымку ідэі правядзення рэферэндуму і вынясення на галасаванне прапанаваных пытанняў сабрана больш за 50 тысяч подпісаў. Зараз яны апрацоўваюцца і правяраюцца, каб не было ніякіх фальсіфікацый, памылак, прэтэнзій. Гэтыя подпісы мы пададзім у Палату прадстаўнікоў у самы бліжэйшы час. Нейкай жорсткай мяжы наконт таго, колькі канкрэтна патрэбна подпісаў для ініцыятывы грамадзян, няма. Але мы самі для сябе вызначылі такую планку — не менш за 50 тысяч.

— **Якім чынам дэпутаты атрымаюць тыя подпісы і як вы будзеце адсочваць іх рэакцыю?**

— Напрыклад, сёння (*у панядзелак.* — **Аўт.**) адна група нашых актывістаў паехала на сустрэчу з дэпутатам у Брэст, а заўтра яшчэ адна група будзе ў Магілёве. Мы плануем паразмаўляць з кожным са 104 дэпутатаў, данесці да іх інфармацыю пра нашу ініцыятыву і заадно пацікавіцца, як яны да яе ставяцца. Трэба ведаць, ці гатовы яны прагаласаваць за правядзенне рэферэндуму, прапанаванага народам.

— **Якія магчымы канчатковыя вынікі?**

— Я ўжо сказаў: мы хочам пачуць меркаванне дэпутатаў. Пакуль яны ідуць на хітрыкі, пераносяць час сустрэч. Але ў кожнага з іх ёсць прыёмныя дні — і выкруціцца ім не ўдасца. Іх рашэнне мы данясём да выбаршчыкаў. Калі яны, дэпутаты, лічацца з інтарэсамі людзей, то мусяць узняць пытанне і прагаласаваць за правядзенне рэферэндуму.

— **А калі палатнікі ўсё ж адхіляць вашу прапанову наконт правядзення ўсеагульнага рэферэндуму, то якімі будуць вашы далейшыя дзеянні?**

— Мы данясём гэтую інфармацыю да выбаршчыкаў праз СМІ. Людзі павінны ведаць прозвішчы тых дэпутатаў, якіх азнаёмілі з пытаннямі рэферэндуму, а яны адмовіліся нават агучыць прапанову, прагаласаваць за правядзенне рэферэндуму. І на гэтым мы не спынімся, а працягнем далейшы збор подпісаў. Няхай іх будзе не 50, а 450 тысяч. Мы працягнем сустракацца з людзьмі, праводзіць інфармацыйную кампанію. Кожны чалавек, які паставіў свой подпіс, будзе адчуваць, што далучыўся да агульнай кампаніі, і такім чынам праявіць зацікаўленасць у яе канчатковым выніку.

**Любоў ЛУНЁВА.**

**P.S.** Цікава, а ў які тэрмін будуць сабраны 450 тысяч подпісаў? Да выбараў зусім мала часу, ці ўлічваюць гэта ініцыятары народнага рэферэндуму? Вядома ж, пасля выбараў іх праца пойдзе, як кажуць, кату пад хвост.

ЭКСПЕРТЫЗА

### *Па нулях*

Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця прагназуе ў 2014 годзе нулявы рост беларускай эканомікі.

І на 2015 год прагноз па нашай краіне песімістычны — рост эканомікі складзе ўсяго 0,5%.

Эксперты лічаць, што беларуская эканамічная мадэль мае патрэбу ў тэрміновым знешнім фінансаванні, у адваротным выпадку паўтарэння крызісу не пазбегнуць. Пакуль, праўда, ніякіх прыкмет таго, што беларускія ўлады гатовы да сур'ёзных рэформаў, няма.

### ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО...

Мінск расчараваўся ў парадах, якія атрымліваў ад Міжнароднага валютнага фонду, і прыцягнуў да выпрацоўкі праграмы рэформаў кітайскіх спецыялістаў. Яны прыязджалі ў Беларусь у маі і бралі ўдзел у абмеркаванні карэкціроўкі сумеснага плана дзеянняў беларускага ўрада і Нацыянальнага банка. Тады кіраўнік групы **Лу Гуйчэн** заявіў беларускім журналістам пра папярэднія высновы экспертаў аб тым, што рэфармавання вымагае сектар дзяржаўных прадпрыемстваў Беларусі.

*"Неабходна рэфармаваць дзяржсектар і прадпрыемствы, аддзяляць функцыю палітычную, сацыяльную, пакідаць камерцыйную, стымуляваць рынкавыя механізмы функцыянавання эканомікі",* — падкрэсліў Лу Гуйчэн.

Афіцыйна ў форме справаздачы прадставіць свае рэкамендацыі для беларускіх улад кітайскія эксперты павінны былі да 3 чэрвеня. Аднак і да сёння невядома, які план ратавання беларускай эканомікі яны прапанавалі.

ЖНІВО-2014

## Протаіерэй Георгій блаславіў...

***У Чачэрскім раёне "Зажынкі" правялі паводле старадаўняга беларускага абраду. Протаіерэй Георгій памаліўся, акрапіў святой вадой сельгастэхніку і даў сваё блаславенне вяскоўцам.***

У гэтым годзе камбайны выйшлі на палеткі ў паўднёвых раёнах раней, чым звычайна. Паводле слоў начальніка ўпраўлення інтэнсіфікацыі раслінаводства камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванні Гомельскага аблвыканкама **Сяргея Дзенісенкі,** сярэдняя ўраджайнасць пакуль вагаецца на ўзроўні 30—35 цэнтнераў з гектара, што прыкладна на 20% вышэй за мінулагодні паказчык. Праўда, трэба ўлічваць, што зараз ураджай збіраецца з лепшых палёў.

Уборка пачалася таксама ў некаторых раёнах Брэсцкай і Гродзенскай абласцей. Там таксама кажуць пра добры ўраджай. Дарэчы, беларускія аграрыі ў гэтым годзе разлічваюць сабраць больш за 10 мільёнаў тон збожжа з улікам кукурузы. Пра гэта заявіў сёння журналістам міністр сельскай гаспадаркі і харчавання **Леанід Заяц.** Паводле ацэнак спецыялістаў Нацыянальнай акадэміі навук, ураджай павінен перавысіць узровень мінулага года. Праўда, раўняцца з мінулым годам няцяжка, бо ўраджай быў не самы лепшы.



*"Ураджайнасць больш за 35 цэнтнераў з гектара дазволіць сабраць ураджай у бункернай вазе больш за 8 мільёнаў тон. Калі з кукурузай, то пры далейшых спрыяльных умовах надвор'я ўраджай павінен быць звыш 10 мільёнаў тон",* — заяўляе міністр сельскай гаспадаркі.

Паглядзім... На Віцебшчыне, Магілёўшчыне да ўборкі збожжавых яшчэ не прыступілі. Некаторыя раёны пачалі ўбіраць рапс.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

SOS!

### *Наваполацк прызнаны самым брудным горадам у Беларусі*

У 2013 годзе на аднаго жыхара Наваполацка даводзілася 498 кілаграмаў выкідаў забруджвальных рэчываў у атмасфернае паветра. Па гэтым паказчыку Наваполацк абсалютны лідар у краіне. Усяго за папярэдні год ад стацыянарных крыніц у атмасферу Наваполацка было выкінута 53.500 тон забруджвальных рэчываў, паведамляе Нацыянальны статыстычны камітэт. На другім месцы з паказчыкам 25.100 тон знаходзіцца Мінск. Праўда, у пераліку на аднаго жыхара сталіцы прыпадае ўсяго 13 кілаграмаў выкідаў, што ў 38 разоў менш, чым у Наваполацку. Замыкае тройку "лідараў" Гродна. У 2013 годзе ў атмасферу гэтага горада было выкінута 10.600 тон забруджвальных рэчываў, а ў пераліку на аднаго жыхара прыпадала 30 кілаграмаў выкідаў. Дарэчы, па колькасці выкідаў, якія прыходзяцца на аднаго жыхара, тройка "лідараў" выглядае некалькі інакш. За Наваполацкам з паказчыкам 53 кілаграмы выкідаў на аднаго жыхара ідзе Слуцк, на трэцім месцы знаходзіцца Салігорск — 37 кілаграмаў на жыхара.

НУ І НУ!

### *Как такому учителю доверить детей?*

*Молодой педагог из Барановичей задержана за распространение спайса.*

*"В результате проведенных оперативно-розыскных мероприятий только за два дня задокументировано семь фактов реализации курительных смесей. Установлены семь покупателей, самый младший из которых — 1999 года рождения",* — рассказали агентству "Интерфакс-Запад" в Министерстве внутренних дел.

КАНФЛІКТ

## Альбо перамога, альбо біржа працы

Страйк дробных прадпрымальнікаў прыпынены да першага канфіскату. Яны прынялі рашэнне выйсці на працу, каб рэалізаваць рэшткі тавараў. Міністэрства гандлю ў сваю чаргу паведаміла пра тое, што з 22 ліпеня пачне масавыя праверкі гандлёвых цэнтраў і рынкаў. Канфлікт паміж прадпрымальнікамі і кантралюючымі органамі нікуды не знік.

Чаму прынята рашэнне спыніць страйк і выйсці на працу?

Старшыня камісіі па працы з прадпрымальнікамі Нацыянальнага савета Аб'яднанай грамадзянскай партыі, старшыня арганізацыйнай групы па стварэнні Беларускага прафсаюза "РАЗАМ", прадпрымальніца з Віцебска **Ірына ЯСКЕВІЧ** тлумачыць:

— Людзі выйшлі на працу, паколькі многія маюць раней завезены тавар.

— **Атрымліваецца, што вы не дамагліся сваіх мэт і спынілі страйк, іншымі словамі, здаліся і прынялі ўмовы чыноўнікаў?**

— Не. Гэта тактычнае рашэнне. Людзі выйшлі рэалізаваць рэшткі тавару. Пры гэтым мы вывучаем сітуацыю, якая склалася, чакаем, як будзе рэалізоўвацца новае заканадаўства на практыцы. Мы выйшлі да першага канфіскату. Паглядзім, як будуць стрымліваць свае неафіцыйныя абяцанні мясцовыя кіраўнікі і чыноўнікі.

На дадзены момант мы дамагліся права працаваць з рэшткамі тавараў без дадатковых абцяжарваючых дакументаў. Аднак гэта толькі да сакавіка. Чаму да сакавіка — незразумела. Бо мы зафіксавалі рэшткі, і ў чым праблема, калі мы іх будзем прадаваць яшчэ, напрыклад, два гады? Нам жа прапануюць па заканчэнні гэтага перыяду ўтылізаваць тавар, прадаць оптам, нешта яшчэ... Хто, цікава, купіць оптам тое, што не прадаецца і ў розніцу? Мы мяркуем, што ў сакавіку рэшткі абкладуць усё-такі дадатковым падаткам.

— **Гэта што тычыцца тавару, увезенага раней. А што з новым?**

— Паводле новых правілаў, тавар дробным прадпрымальнікам немагчыма ўвезці. Глядзіце... Мы купляем яго часцей за ўсё оптам у Расіі, там да сваіх прадпрымальнікаў ставяцца інакш. У іх цяпер ідуць перамовы аб прадастаўленні дробным прадпрымальнікам двухгадовых падатковых вакацый. Значыць, у іх не будзе ні праверак, ні падаткаў. У іх няма патрэбы мець касавы апарат, адпаведна, мы не атрымліваем чэк і не можам пацвердзіць пакупку тавару. Падатковая пры ўвозе тавару ў Беларусь гатова прыняць любую паперку (уласнаручна напісаны таварны чэк, напрыклад), каб атрымаць увазную пошліну. Але потым органы стандартызацыі і гігіены не дазволяць мне гандляваць гэтым таварам — яны не лічаць гэтыя дакументы дастатковымі, патрабуюць сертыфікат якасці. Прычым расійскі не прымаюць. Гэта значыць, што мы можам завезці тавар, але не можам яго прадаваць.

Акрамя таго, у беларускіх ІП атрымліваецца трайное падатковае абкладанне! Расіянам я заплачу 18% ПДВ пры куплі, плюс стаўка адзінага падатку з двума павышаючымі каэфіцыентамі і плюс яшчэ 20% увазной пошліны.

— **А калі закупляць тавар на аптовых базах тут, у Беларусі, як прапануе Міністэрства гандлю?**

— Аптовых баз у дастатковай колькасці з адпаведным асартыментам няма. У інтэрнэце няма ні каталога, ні прайс-лістоў, а яны кажуць: "Прыязджайце!" І потым... Тавары з беларускіх баз на самай справе рэалізаваць вельмі цяжка, бо фірмовыя крамы вытворцаў, што пастаўляюць тавар на гэтыя базы, прадаюць гэтыя ж рэчы ў розніцу танней, чым база гатова аддаць іпэшніку па аптовым кошце! Гэта значыць, базы нічога не вырашаюць.

Ёсць і яшчэ адзін цікавы аспект: беларускія індывідуальныя прадпрымальнікі на рынку дыскрымінаваны ў параўнанні з замежнымі грамадзянамі. Тыя плацяць адзін падатак, арэнду, — вось і ўсё. Замежнікі не абавязаны прадастаўляць дакументы на тавар, якія патрабуюць з нас. Так што колькасць гандляроў — грамадзян іншых краін расце, хутка ўсе нашы рынкі ператворацца ў "Чаркізон" і "Шанхай".

— **Чаго ўлады дамагаюцца такім чынам?**

— Мабыць, яны разлічваюць, што ІП пяройдуць на іншую форму гаспадарання. Але людзі не сыдуць на іншае падаткаабкладанне — пры невялікім абароце гэта непад'ёмна. Людзі пойдуць хто на пенсію, хто на біржу працы.

— **Якія вашы далейшыя дзеянні? Забастоўка, адступленне, зноў забастоўка?**

— З кожным разам арганізоўваць страйк усё лягчэй, да людзей паступова даходзіць, што працаваць немагчыма.

**Ганна КРАСУЛІНА.**

### ТЫМ ЧАСАМ

Гандлёвая інспекцыя Міністэрства гандлю Беларусі з 22 ліпеня пачне масавыя праверкі рынкаў і гандлёвых цэнтраў.

З 22 ліпеня ўступае ў сілу закон "Аб дзяржаўным рэгуляванні гандлю і грамадскага харчавання ў Рэспубліцы Беларусь".

SOS!

# Каб не згінулі...

*90 год таму — 15 ліпеня 1924 года — беларускі ўрад надаў беларусізацыі статус дзяржаўнай палітыкі. Але, паспяхова і ўздымна пачаўшыся, гэты лёсавызначальны для нацыі працэс ужо на пачатку 1930-х гадоў быў гвалтоўна перапынены. Тысячы і тысячы шчырых, адданых працаўнікоў на здзічэлай ніве Беларушчыны — вядомых навукоўцаў, найлепшых настаўнікаў, славутых пісьменнікаў — трапілі ў бязлітасныя жорны сталінскіх рэпрэсій.*

*А што маем цяпер?*

Выступаючы ў студзені гэтага года перад журналістамі, Аляксандр Лукашэнка сказаў: *"Мова не для революции".* І далей: *"...ее защищать не надо. Она не нуждается в защите. И ни в какой поддержке не нуждается".* Вось так! Радуйцеся, браткі-беларусы, што, аказваецца, у нас з нацыянальнай роднай мовай лады. Не бярыце да галавы і не лямантуйце, што ЮНЕСКА занесла вашу, сацыяльна не запатрабаваную ў краіне, мову ў Чырвоную кнігу, што на ўсёй постсавецкай прасторы толькі вы размаўляеце не на сваёй роднай, а на мове ўсходняга суседа...

У нас стала традыцыяй змест прамоў А.Лукашэнкі выносіць на старонкі афіцыйнага друку. Гэтае правіла не было парушана і падчас яго выступлення перад журналістамі СМІ краіны. Так, друкаваны перыядычны орган Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь — газета "Рэспубліка" — адгукнулася на тое нашумелае выступленне рускамоўнай інфармацыяй "Проблема белорусского языка политизирована". Ізноў — ранейшае тлумачэнне: ну не існуе сёння ў краіне ніякай праблемы з роднай мовай, толькі яна цалкам палітызавана, яе выдумляюць нейкія там крайнія нацыяналісты. Ой, нядобра... Быццам рэдакцыі названай газеты не вядомы факт амаль поўнага адміністрацыйнага выгнання беларускай мовы з усіх сфер грамадскай дзейнасці чалавека. Яна — хіба не бачна кожнаму? — знаходзіцца ў становішчы папялушкі і ў сферы адукацыі, і ў культуры, і ва ўсім духоўным жыцці краіны яшчэ ў большай ступені, чым нават за царскім і савецкім часамі. Гэта ў значнай меры тычыцца і самой "Р".

"Свой" погляд на гэтую праблему газета "Рэспубліка" выкладае вернападданніцкімі словамі: *"Президент отметил, что в государстве созданы все возможности для желающих изучать белорусский язык".* Дык што — многія дзеці па-беларуску гадуюцца ў дашкольных установах, ідуць масава ў беларускамоўныя гімназіі, ліцэі, каледжы, універсітэты і гэтак далей? Дзе ў рэальнасці ўбачыць падобную ружовую яву, аб якой можна толькі марыць?

Калі А.Лукашэнка гаварыў, *што "в государстве созданы все возможности для желающих изучать белорусский язык",* дык, не выключаю, ён мог мець на ўвазе стварэнне гурткоў, якія павінны працаваць у пазапрацоўны час пры прадпрыемствах і ўстановах. Нешта падобнае і сапраўды рабілася ў першыя гады існавання Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Сёння ж абмяжоўвацца ледзь не самадзейнымі гурткамі значыла б выстаўляць краіну на ўсясветнае, ды і ўласнае пасмешышча. Трэба, шаноўныя дзяржаўныя мужы, ствараць для беларусаў не "курсы" па вывучэнні іх жа роднай мовы, а зрабіць так, каб яна гучала паўсюдна і ўсячасна — у тым ліку, само сабою, ва ўсіх тыпах навучальных устаноў, сфер культуры і мастацтва, у працоўных калектывах, у службовых уладных кабінетах, на пасяджэннях Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Калі па-беларуску загавораць "вярхі", і перш за ўсё кіраўнік дзяржавы, тады і ў нас усё стане на свае месца — як у нармальных, не раз'едзеных асіміляцыяй людзей.

Зусім нядаўна, падчас святочных урачыстасцяў у гонар Дня Незалежнасці, мы былі даволі моцна ўражаны. З вуснаў першай асобы дзяржавы пачулі прамоўленую па-беларуску ладную частку яго вялікага выступлення. Сапраўды, такое немагчыма было не заўважыць і не вітаць, не пажадаць, каб гэты "працэс пайшоў" і далей, стаў прыкладам для ўсяго кіраўніцтва і чыноўніцтва краіны, для ўсіх яе грамадзян.

Вельмі-вельмі хацелася б гэта пабачыць. А пакуль...

Пакуль жыхары нашай краіны не карыстаюцца нацыянальнай мовай перш за ўсё з-за яе сацыяльнай незапатрабаванасці. Стала яна такой не стыхійна, не па волі народа, а "дзякуючы" мэтанакіраваным намаганням улад. Высокія палітыкі супольна з афіцыйнай інтэлектуальнай элітай — свядома ці неабдумана — пасля сумнавядомага майскага рэферэндуму 1995 года ўвялі дзяржаўнае **двухмоўе ў аднанацыянальнай краіне** з адным тытульным народам. Такое не практыкуецца нідзе ў цывілізаваным свеце, бо разглядаецца як вялікая недарэчнасць.

На маё перакананне, менавіта ўладныя структуры, што паскорылі разбуральныя працэсы ў мове тытульнай нацыі, у першую чаргу і павінны зрабіць "адкрутку назад". Тады і пачне ажываць наша мова. Тым болей што А.Лукашэнка сказаў доўгачаканыя словы: *"Я абсолютно не против белорусского языка. Я даже больше, чем вы, хочу, чтобы наши люди разговаривали на белорусском языке. Единственное, чего я не приемлю, — это давление".* Набяруся смеласці сцвярджаць, што яго не будзе і не можа быць, калі дзяржава свядома паспрыяе, каб беларуская мова рабілася сацыяльна запатрабаванай, усяляк будзе шукаць шляхі да вырашэння лёсавызначальнай для Рэспублікі Беларусь праблемы.

Беларусы нацыянальнай арыентацыі даўно стаміліся чакаць пазітыўных зрухаў у дзяржаўнай моўнай палітыцы. З гэтым далёка не ўсё так проста, як у выказванні прэзідэнта: *"Если хочешь заговорить на белорусском языке — открывай книгу и читай".* Так-то яно так, але толькі тады людзі загавораць па-беларуску, калі ўлада ўвядзе за правіла ўсе віды службовага справаводства, адукацыю, навуку і культуру ў пераважнай ступені абслугоўваць роднай мовай. Пакуль жа на яе актыўных носьбітаў глядзяць падазрона, за вочы ці ў вочы называюць нацыяналістамі (у старым, бальшавіцкім разуменні гэтага слова).

Амаль дваццаць гадоў дзяржава выступае нястомным носьбітам толькі адной — рускай — мовы. Дзе ж славутае "двухмоўе"? Дзе хоць бы акенца для сваёй, роднай? Сваю мы "паспяхова" амаль згубілі, сталі нацыянальнымі недарэкамі, духоўнымі калекамі. Гэта ўжо вельмі дорага каштуе беларускай краіне — мы губляем нашу годнасць, самапавагу і павагу да нас у свеце. Гэта шкодзіць сапраўднаму патрыятычнаму выхаванню моладзі ды і ўсіх грамадзян краіны.

Моўнае пытанне не абмінуў увагай А.Лукашэнка і ў сваім сёлетнім Пасланні да беларускага народа і Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, якое, нельга не прызнаць, было не зусім характэрным для аналагічных зваротаў папярэдніх гадоў. Відаць, прычынай таму — падзеі ва Украіне: яны яскрава паказалі, што моўны фактар можа справакаваць не толькі ўнутраны крызіс у краіне, але і ўварванне на яе тэрыторыю чужых войскаў нібыта дзеля "абароны моўных правоў" пэўнай групы насельніцтва. Ці пагражае нам такі вайсковы "візіт" з усходу? Калі абмежавацца пачаткам аднаго са сказаў з таго Паслання (цытую па газеце "Звязда": *"Вялікая руская мова будзе свабодна развівацца ў Беларусі..."* — дык не пагражае. Але ж з працягу гэтага сказа такое зусім не вынікае, бо ў ім сцвярджаецца, што руская мова будзе ў нас развівацца *"гэтак жа, як і наша матчына беларуская мова".* Дык што выходзіць — і яна, руская, падзеліць у нас трагічны лёс беларускай і амаль знікне? Я гэтага зусім не хачу. Тады насамрэч верагодны — пакуль, дзякуй Богу, віртуальны — варыянт: у Масквы ў такім разе можа з'явіцца нагода рушыць свае войскі на Беларусь...

Што датычыць сённяшніх рускамоўных беларусаў у Беларусі, то, відавочна, шмат хто з іх згодны апынуцца ў поўнай каланіяльнай залежнасці ад Расіі. Сёння, як ніколі, нацыянальны нігілізм многіх грамадзян краіны — дзецішча шматгадовай дзяржаўнай палітыкі — уяўляе для нас не меншую катастрофу, чым сатанінскія наступствы Чарнобыля.

Трагедыя ўжо наступіла. І, здаецца, гэта зразумеў сам А.Лукашэнка, сказаўшы: *"Калі мы развучымся гаварыць на беларускай мове, мы перастанем быць нацыяй".* Зыходзячы з гэтага архіважнага пастулата, цалкам лагічным было б, каб з боку дзяржавы адчулася гатоўнасць **істотна мяняць сітуацыю** дзеля паратунку мовы тытульнай нацыі, дзеля далейшага існавання яе самой, ўратавання краіны. Мова — наша самая дарагая нацыянальная святыня. На працягу некалькіх стагоддзяў дзякуючы ёй мы былі самабытным народам, а цяпер толькі губляем, губляем свае нацыянальныя духоўныя каштоўнасці.

Ці не хопіць нам мірыцца з такім згубным абсурдам? Ці не час кіраўніцтву краіны зверху данізу, інтэлігенцыі — у духоўным, маральным, арганізацыйным плане - пачаць жыць паводле здаровага сэнсу, стварыць і здзейсніць прадуманую, важкую праграму вяртання ва ўласнае рэчышча беларускага роднага слова? Інакш лёсавызначальнае пытанне "Быць ці не быць?" вырашыцца для дзяржавы самым адмоўным, гібельным чынам...

**Леанід ЛЫЧ,**
**доктар гістарычных навук, прафесар.**

ОПРОС

## Что волнует белорусов?

*Недавно независимыми социологами проведен очередной национальный опрос общественного мнения (методом face-to-face interview опрошено 1519 респондентов 18 лет и старше, предельная ошибка репрезентативности не превышает 0.03). Вот ответы по одному из фрагментов опроса.*

**Какие проблемы наиболее остро стоят сейчас перед нашей страной и ее гражданами? *(респонденты могли одновременно отвечать по нескольким позициям)***

| **Вариант ответа** *(в % к опрошенным)* | **06'99** | **06'06** | **12'08** | **06'14** |
|---|---|---|---|---|
| Рост цен | 82.7 | 60.1 | 82.5 | 80.0 |
| Обнищание населения | 73.2 | 19.5 | 37.8 | 41.9 |
| Спад производства | 31.8 | 18.7 | 31.7 | 35.1 |
| Безработица | 35.7 | 37.0 | 35.7 | 25.2 |
| Коррупция, взяточничество | 29.7 | 27.6 | 26.0 | 23.8 |
| Уменьшение численности населения | — | 21.9 | 14.9 | 16.9 |
| Нарушение прав человека | 23.3 | 22.1 | 20.1 | 16.0 |
| Отсутствие порядка, законности | 24.6 | 22.1 | 20.6 | 15.8 |
| Угроза Запада | 9.3 | 18.2 | 13.0 | 15.4 |
| Упадок национальной культуры | 13.1 | 10.8 | 8.1 | 13.2 |
| Преодоление последствий Чернобыльской катастрофы | 29.5 | 25.5 | 10.6 | 11.8 |
| Преступность | 44.6 | 23.2 | 20.8 | 11.6 |
| Международная изоляция Беларуси | 9.1 | 14.4 | 9.8 | 11.0 |
| Раскол общества | 5.0 | 7.3 | 4.0 | 10.6 |
| Угроза потери независимости Беларуси | — | 8.3 | 5.2 | 9.5 |

www.iiseps.org

КАРУПЦЫЯ

## За ім прыйшлі

*Падобнымі крымінальнымі справамі цяжка каго-небудзь здзівіць, але для кожнага невялікага раённага цэнтра яны робяцца рэзананснай падзеяй.*

Гарадоцкім раённым аддзелам Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь расследуецца крымінальная справа ў дачыненні да першага намесніка старшыні Гарадоцкага раённага выканаўчага камітэта Уладзіміра Варанко. Крымінальная справа распачата пракуратурай Гарадоцкага раёна паводле матэрыялаў праверкі супрацоўнікаў 7-га ўпраўлення ГУ па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй Міністэрства ўнутраных спраў. Пра гэта распавяла афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта па Віцебскай вобласці **Іна Гарбачова.**

Афіцыйная версія таго, што адбылося, выглядае так: *"З 31 студзеня па 1 лістапада 2013 года, раней працуючы на пасадзе дырэктара ААТ "Гарадоцкі льнозавод", сумесна з галоўным бухгалтарам гэтага ж прадпрыемства, дзейнічаючы з карыслівай зацікаўленасці, якая выявілася ў імкненні пазбегнуць прыцягнення да матэрыяльнай і дысцыплінарнай адказнасці за несвоечасовую выплату заработнай платы, унеслі загадзя лжывыя звесткі ў неабходныя для налічэння заработнай платы даведкі, якія ў наступным падалі ў банк".* Дзеянні падазроных кваліфікаваны па ч.1 арт.427 (службовая падробка) Крымінальнага кодэкса. Санкцыі па гэтым артыкуле прадугледжваюць пазбаўленне волі да 2 гадоў.

Першы намеснік старшыні Гарадоцкага раённага выканаўчага камітэта таксама падазраецца ў перавышэнні ўлады або службовых паўнамоцтваў. Паводле версіі следства, чыноўнік даў указанні галоўнаму бухгалтару ААТ "Гарадоцкі льнозавод" аб унясенні загадзя лжывых звестак у афіцыйны дакумент, які адлюстроўваў скажоныя дадзеныя аб увядзенні ў эксплуатацыю малочна-таварнай фермы, якая належыць ААТ "Гарадоцкі льнозавод". Крымінальная справа расследуецца па ч.2 арт.426 (перавышэнне ўлады або службовых паўнамоцтваў) КК РБ. Па гэтым артыкуле чыноўніку пагражае таксама ад 2 да 6 гадоў пазбаўлення волі.

ЗАКУЛИСЬЕ

# Кто такой Виталий Костогоров

## и за что его Совет Республики лишил неприкосновенности?

*На днях краем уха услышал о том, что члена Совета Республики Виталия Костогорова лишили права личной неприкосновенности. Учитывая, что у нас большинство депутатов Палаты представителей и членов Совета Республики — люди безликие и непубличные, хотелось бы узнать: кто он такой? Как попал в Совет Республики, чем зарабатывал на жизнь? И за какие такие деяния попал под прицел правоохранительных органов?*

**Виталий ШМЫГ,**
**Минский район.**



Виталию Костогорову 45 лет, он женат. Жил и работал в Могилеве, известен как довольно успешный предприниматель. В 2002 году стал "Человеком года" Могилевской области, дважды объявлялся лучшим предпринимателем года Республики Беларусь в номинации "Меценат", был лучшим предпринимателем года Республики Беларусь в номинации "Экспортер", лучшим предпринимателем года Могилевской области в сфере производства потребительских товаров.

До недавнего времени Костогоров возглавлял ЗАО "Политекс". Предприятие занимается производством *"экологически чистых современных нетканых материалов для текстильной, легкой, мебельной, автомобильной промышленности, дорожного строительства, фильтров, наполнителей для одежды, постельных принадлежностей, мягких игрушек, упаковочных материалов".* Свое производство, как отмечалось в прессе, Костогоров возводил фактически с нуля.

Имя Костогорова периодически упоминалось на страницах средств массовой информации — он входил в Совет по развитию предпринимательства, изредка давал какие-то незначительные комментарии. В прошлом году даже задал вопрос А.Лукашенко — "сенатора" Костогорова почему-то волновало строительство газопровода "Ямал—Европа-2".

Помощник Виталия Костогорова **Марат Колесников** рассказал "Народной Воле", что, отправляясь в Минск на заседание Совета Республики, даже и не догадывался, что на его руках могут щелкнуть наручники.

*— Пока никакой новой информации о Виталии Геннадьевиче, к сожалению, нет,* — говорит Марат Михайлович. — *Странно, конечно, что подробности отсутствуют, но это Совет Республики, и что там произошло — я не могу комментировать...*

*Для меня Костогоров как бы в командировке. Телефон его недоступен. Как обычно, он уехал в Минск в Совет Республики. После этого связь с ним внезапно оборвалась...*

*Что касается предприятия, то оно работает. Конечно, не в обычном режиме, как при Виталии Геннадьевиче, но, можно сказать, что сбоев нет. В ближайшее время должно состояться собрание акционеров, будет временно назначен новый руководитель — пока Костогоров не вернется. Кстати, когда Костогоров уезжал в Минск, всегда назначал исполняющего обязанности директора — так что и сейчас нельзя сказать, что предприятие обезглавлено.*

*Предчувствовал ли что-то Костогоров, отправляясь на заседание Совета Республики? Нет, все было, как обычно. К тому же он должен был после этого выступать на юбилее освобождения Могилевского района, мы готовились, и тут вдруг...*

Сообщалось, что Костогорова *"задержали прямо на заседании верхней палаты парламента, которое проходило в конце июня. Члены Совета Республики большинством голосов лишили сенатора неприкосновенности".*

Несмотря на то, что, по словам так называемых "сенаторов", перед ними правду-матку о Костогорове рассказывал сам глава Следственного комитета, в пресс-службе ведомства никаких комментариев не дают, ссылаясь на отсутствие информации. Не называют даже статьи, которые инкриминируются Костогорову. Зачем столько секретов — не ясно.

Впрочем, это далеко не первое дело, которое правоохранители пытаются засекретить. Например, довольно громко была растиражирована новость о взятке в полмиллиона долларов, на которую покусился уже бывший руководитель "Белкоопсоюза" **Сергей Сидько** вместе со своими подчиненными. Уже больше года прошло, а подробностей по делу из уст правоохранителей — ноль. Аналогичная ситуация с экс-главой концерна "Беллегпром" **Михаилом Сучковым**, который попался на взятке. Грома было много, а чем дело завершилось, как идет расследование — не сообщается. Не исключено, что если эти дела дойдут до суда, то рассматриваться будут в закрытом режиме, как, например, дело бывшего заместителя генерального прокурора **Александра Архипова** и экс-председателя Палаты представителей **Владимира Коноплева.**

**Марина КОКТЫШ.**

### Из личного дела

*Виталий Костогоров родился в 1969 году в поселке Таромское Днепропетровской области в Украине. В 1991 году окончил Калининградское высшее инженерное ордена Ленина Краснознаменное училище инженерных войск по специальности "фортификационные сооружения и маскировка".*

*С 1995-го по 1996 год работал заместителем директора по коммерческим вопросам малого экспериментального предприятия "Аспект". В 1997—1998 годах — заместитель директора по коммерческим вопросам производственного коммерческого предприятия "Политекс". С 25 декабря 1998 года и по настоящее время является директором ЗАО "Политекс".*

НОВИНКА

## И это можно пить?

*Белорусские ученые создали антипохмельный напиток из картофеля.*

На белорусском рынке вскоре должна появиться новая разработка специалистов Научно-практического центра Национальной академии наук — газировка из картофеля.

Газированный напиток под названием "Мікола", по утверждению разработчиков, аналогов на рынке не имеет. Ученые уже разработали около 10 рецептур, но решили остановиться на трех вариантах — классической газировке с тмином, противовоспалительном и антипохмельном напитках. Они уверяют, что "Мікола" создан исключительно из натуральных продуктов и будет полезен людям всех возрастов. На вкус он напоминает хлебный квас.




ПЫТАННЕ—АДКАЗ

## Час "ікс"

***"Народная Воля" шмат увагі надае жыллёвым праблемам, паведамляе пра высяленне людзей са службовага жылля, пра несправядлівасць самога працэсу прыватызацыі кватэр, калі аказалася, што людзі пражылі ўсё жыццё ў невялікіх пакоях, а цяпер вымушаны заплаціць за іх велізарныя грошы. Але, пакуль мы спрачаемся і выказваем меркаванні, можа скончыцца час, адведзены для прыватызацыі. Калі ж ён настане, гэты "час ікс"?***

**Васіль ПАЎЛЮК, г.Гомель**

Згодна з указам кіраўніка дзяржавы №563, жылыя памяшканні дзяржаўнага жыллёвага фонду, якія не былі прыватызаваны грамадзянамі, будуць пераведзены ў статус камерцыйнага жылля пасля 1 ліпеня 2016 года. Да гэтай даты грамадзяне могуць скарыстацца правам на прыватызацыю. Пасля названай даты прыватызацыя спыняецца.

АБИТУРИЕНТ-2014

## БГУ назвал новые цены на обучение

На сайте БГУ опубликована стоимость обучения для первокурсников дневного отделения. По сравнению с прошлым учебным годом платное образование в главном вузе страны подорожало на 2,5—3,5 миллиона рублей.

Самые дорогие факультеты главного вуза страны — юридический и международных отношений. На специальностях "Правоведение", "Экономическое право" и "Международное право" студенты 1-го курса заплатят 21,52 миллиона рублей за учебный год. В прошлом году цена составляла 17,94 миллиона рублей. Учеба на специальностях "Лингвострановедение" и "Международные отношения" (ФМО), "Восточная филология" (филологический факультет) и "Дизайн" (гуманитарный факультет) будет стоить немного дешевле — 21,24 миллиона. По сравнению с прошлым годом стоимость обучения выросла на 3,5 миллиона рублей.

Самая дешевая специальность в БГУ — "Социальная работа" на гуманитарном факультете. За 2014—2015 учебный год первокурсники заплатят 15,4 миллиона рублей. Год назад цена была на 2,5 миллиона ниже — 12,84 миллиона рублей.

СЛЫШАЛИ?

## Вагончик тронется, а вы останетесь

С 21 июля на участке Осиповичи—Бобруйск временно отменяются некоторые поезда, на участке Минск—Жлобин изменяется расписание. В связи с проведением работ по модернизации устройств железнодорожной автоматики на участке Осиповичи—Бобруйск некоторые поезда в двадцатых числах июля будут временно отменены.

В частности, по информации пресс-службы Белорусской железной дороги, отменяются поезда:

№ 744/743 Минск—Бобруйск (с 22 по 25 июля);

№ 746/745 Минск—Бобруйск (с 21 по 25 июля);

№ 742 Минск—Жлобин (с 21 по 24 июля);

№ 741 Жлобин—Минск (с 22 по 25 июля);

№ 615/622 Гомель—Минск (с 22 по 24 июля).

БЖД просит пассажиров, которые уже приобрели билеты на эти поезда в указанный период, обратиться в железнодорожные кассы, где им должны вернуть полную стоимость проездных документов.

Кроме того, в связи с проведением работ по модернизации устройств железнодорожной автоматики с 21 по 25 июля будет изменено расписание движения ряда поездов на участке Минск—Жлобин. При этом изменяется время отправления и прибытия поездов, курсирующих по маршрутам Гомель—Минск, Одесса—Минск, Минск—Симферополь, Житомир-Барановичи, и некоторых других.

БЖД приносит пассажирам извинения за доставленные неудобства и просит следить за изменениями в расписании движения поездов.

СКАНДАЛЬНЫЙ ОБЪЕКТ

# Снос начался...

Несмотря на многомесячные протесты минчан, демонтаж здания автовокзала "Московский" все же начался. Обширную территорию вокруг него оградили временным забором. Появились бытовки для рабочих, строительная техника. Можно увидеть и рабочих, снимающих тротуарную плитку с дорожек и укладывающих ее в штабеля на поддоны.

Главный инженер проекта (он же руководитель авторского надзора) Александр Солнце рассказал, что это первый этап подготовки к возведению в данном месте многофункционального высотного комплекса: "На втором этапе предстоит выполнить перекладку инженерных сетей, а на третьем — собственно демонтаж пока еще существующего здания".

Как отмечает "Минск-Новости", демонтажные работы, заказчиком проекта которых является ОАО "Газпром трансгаз Беларусь", генподрядчиком — ОАО "Минскпромстрой", а субподрядчиком — СУ №20, должны быть завершены в ноябре нынешнего года.

После того как здание автовокзала разберут, на месте нынешнего временного забора появится более основательный, а за ним развернутся работы по сооружению многофункционального комплекса, доминантой которого станет высотное здание группы "Газпром" в Беларуси. Вокруг него будут возведены еще несколько офисных зданий, отель, а также ряд социальных объектов. Напомним, минчане активно протестовали не против возведения "башни "Газпрома", а против того, что ее решили "посадить" на месте автовокзала "Московский", архитектура которого была отмечена Государственной премией. Да и возведено здание вокзала совсем недавно, а потому его уничтожение с экономической точки зрения — это, считай, преступная бесхозяйственность.



УЧОРА

## Не ўмееш працаваць — ідзі «пад нож»

У панядзелак кіраўнік дзяржавы прымаў з дакладам прадстаўнікоў рабочай групы па фінансавым забеспячэнні прапаноў па ўдасканаленні дзяржаўнай аграрнай палітыкі.

Як высветлілася падчас сустрэчы, Аляксандр Лукашэнка па-ранейшаму ўпэўнены, што беларуская сельская гаспадарка можа не толькі працаваць самастойна, але і зарабляць. Тым больш пасля *"немалой падтрымкі ад дзяржавы".*

*"Мы дамовіліся, што мы павінны падтрымаць тых, хто сёння можа выйсці на бясстратную працу і працаваць самастойна, а тым, якія не хочуць і не могуць, мы павінны даць тэрмін як мінімум да канца года і прыватызаваць, прадаць тым, хто хоча працаваць. Таму хай думаюць і вырашаюць",* — перадае словы кіраўніка дзяржавы прэс-служба.

Дарэчы, паводле дадзеных Белстата, у красавіку ў Беларусі налічвалася 870 стратных сельгаспрадпрыемстваў, якія працавалі без дзяржпадтрымкі (амаль 59%), і 117 стратных прадпрыемстваў, якія дзяржпадтрымку мелі.

Лукашэнка нагадаў, што пытанне прыватызацыі стратных сельгаспрадпрыемстваў уздымалася неаднойчы і пакуль яшчэ рашэнне не прынятае. Паводле яго слоў, галоўнае пытанне не ў тым, колькі гэта будзе каштаваць, а ў тым, *"ці вытрымае дзяржава такую нагрузку з пункту гледжання фінансаў".*

СТРАТЫ

## Памерла жонка Юрыя Хадыкі

*11 ліпеня не стала Валянціны Зімніцкай, жонкі палітыка Юрыя Хадыкі, маці журналіста Аляксея Хадыкі. Развітанне з ёю адбылося ў панядзелак у грэка-каталіцкім Цэнтры Св.Язэпа.*



Апошнім часам Валянціна Зімніцкая цяжка хварэла.

Валянціна Кірылаўна была свайму мужу і тылам, і паплечнікам. Калі яго арыштавалі пасля "Чарнобыльскага Шляху-96", спадарыня Валянціна нават у грамадскім транспарце ездзіла з плакатам "Свабоду Хадыку!".

Як узгадваў спадар Хадыка, у свой час ён выпадкова пазнаёміўся з прэзідэнтам Расіі Барысам Ельцыным. Сустрэліся на Рыжскім узмор'і, абодва былі з жонкамі. Пазнаёміліся, паразмаўлялі. Ельцын паабяцаў дапамагаць усталяванню дэмакратыі ў Беларусі. І калі Хадыка трапіў за краты, жонка Юрыя Віктаравіча Валянціна Кірылаўна нават Ельцыну датэлефанавалася...

Потым яна дапамагала ратаваць Сяргея Каваленку, які пасля арышту за вывешаны бел-чырвона-белы сцяг трымаў у турме галадоўку, і многіх іншых людзей, якія ахвяруюць сабой дзеля Беларусі.

"Жыццё і змаганне ва ўмовах аўтарытарнага рэжыму — гэта цяжкі крыж, — неяк прызнаваўся Юрый Хадыка. — І, вядома, я нясу пэўную меру адказнасці за тое, што мае сыны зараз не генерал-палкоўнікі, не дарадцы прэзідэнта па бяспецы, хоць па інтэлектуальным узроўні кожны з іх не ніжэйшы, чым Віктар Лукашэнка. Але справа не ў гэтым. Справа ў тым, што маральныя аўтарытэты ствараюцца толькі ў сям'і".

Рэдакцыя "Народнай Волі" прыносіць свае спачуванні родным і блізкім Валянціны Кірылаўны.

МЕРКАВАННЕ

## Мікола СТАТКЕВІЧ: «Байкот выбараў прыдатны, калі...»

Агітаваць за байкот выбараў беларускім заканадаўствам цяпер забаронена, але чым бліжэй прэзідэнцкія выбары, тым часцей можна пачуць: "Я на выбары не пайду".

Што думае наконт байкоту чалавек, які пасля мінулых выбараў усё яшчэ застаецца ў турме?

"Калі байкот выбараў прыдатны? Калі чалавек пазбаўлены права выбару, канкрэтнага выбару — тут і зараз", — разважае экс-кандыдат у прэзідэнты Беларусі Мікола Статкевіч у сваім чарговым лісце да Марыны Адамовіч. Яго змест жонка палітвязня выклала на сваёй старонцы ў сацыяльных сетках.

— Мікола заўсёды лічыў, што байкот у нашай канкрэтнай сітуацыі малаэфектыўны, — пракаментавала Марына Адамовіч. — Байкот успрымаецца людзьмі як параза, але бывае сітуацыя, якая робіць байкот адзіным правільным варыянтам выбару — гэта калі людзей права выбару пазбавілі. Гэта значыць, што вылучаныя моцныя дэмакратычныя кандыдаты не былі зарэгістраваны альбо былі зняты на этапе, які папярэднічае этапу галасавання.

Нагадаем, што Мікола Статкевіч адбывае шасцігадовае зняволенне за нібыта арганізацыю масавых беспарадкаў 19 снежня 2010 года. Ён знаходзіцца ў магілёўскай калоніі №4. Сваю віну катэгарычна адмаўляе і не падпісвае прашэнне аб памілаванні.

ЧУЛІ?

## Піў не піў, але ўжо не працуе

Начальнік Мазырскага РАУС адхілены ад выканання службовых абавязкаў. Паводле папярэдняй інфармацыі, за кіраванне аўтамабілем у п'яным выглядзе.

Напрыканцы чэрвеня раніцай начальнік РАУС **Юрый Красюк** быў спынены супрацоўнікамі УДАІ УУС Гомельскага аблвыканкама з прыкметамі алкагольнага ап'янення, паведамілі ў аддзеле інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС Гомельскага аблвыканкама. Пакуль праводзіцца праверка, дакладна не ўстаноўлена, ці быў сапраўды п'яны міліцэйскі кіраўнік падчас знаходжання за рулём аўтамабіля.

Паводле неафіцыйнай інфармацыі, адпрацоўка дарог праводзілася супрацоўнікамі ДАІ, калі Гомельскую вобласць наведваў Аляксандр Лукашэнка. Адпрацоўку дарог Гомельскай вобласці ў канцы чэрвеня таксама праводзіла спецпадраздзяленне УДАІ УУС "Маланка".

Падпалкоўнік Юрый Красюк быў прызначаны на пасаду начальніка Мазырскага РАУС 29 сакавіка 2013 года загадам Міністэрства ўнутраных спраў. Ураджэнец Мазырскага раёна. Пачынаў працоўную дзейнасць у Калінкавіцкім РАУС, скончыў Акадэмію МУС, дзевяць гадоў працаваў у крымінальным вышуку. З 2002 года займаў пасаду намесніка начальніка — начальніка міліцыі грамадскай бяспекі Калінкавіцкага РАУС.

АФІЦЫЙНА

## Не прымаць!

Нацыянальны банк Беларусі дазволіў банкам не прымаць у грамадзян наяўную грыўню.

Такое права дадзена да 1 студзеня 2015 года ў сувязі з тым, што ва Украіне на фоне вельмі складанай палітычнай сітуацыі ўзніклі сур'ёзныя праблемы ў фінансавай сферы і прадказаць тэмпы зніжэння курсу грыўні немагчыма нават на сярэднетэрміновую перспектыву.

"*На гэтым фоне ў памежных раёнах Беларусі з'явілася вялікая прапанова грыўні. Грамадзяне скуплялі беларускія рублі, замежную валюту, тавары. Прапанова грыўні была значна вышэй попыту",* — адзначаюць крыніцы ў банкаўскіх колах. У выніку ў банкаў аказаваліся лішкі грыўні, якая хутка дэвальвуецца (з пачатку года яна абясцэнілася на 46%). Цяпер банкі будуць толькі прадаваць грыўні, бо паміж краінамі па-ранейшаму маецца сур'ёзны тавараабарот, узаемныя паездкі, у тым ліку на адпачынак.

НАДВОР'Е

## Дажджы і спёка

Другая палова гэтага тыдня ў Беларусі будзе менш дажджлівай. Пра гэта паведаміў начальнік службы гідраметэаралагічных прагнозаў Рэспубліканскага гідраметэацэнтра **Дзмітрый Рабаў.**

Паводле яго слоў, у першай палове тыдня яшчэ будуць гаспадарыць атмасферныя франты з Заходняй Еўропы, пад уплывам якіх у аўторак ноччу месцамі, днём на большай частцы тэрыторыі краіны пройдуць кароткачасовыя дажджы, прагрымяць навальніцы. Месцамі днём прагназуюцца моцныя ліўні, град і шквалістае ўзмацненне ветру да 15—20 метраў у секунду. Днём паветра прагрэецца да 25—30 градусаў цяпла.

У сераду ноччу месцамі, днём на большай частцы тэрыторыі пройдуць кароткачасовыя дажджы, у асобных раёнах прагрымяць навальніцы. Тэмпература паветра ўначы складзе плюс 12—17 градусаў, удзень — ад 24 да 29 градусаў са знакам плюс, па паўднёвым усходзе будзе 30—31 градус цяпла.

У наступныя дні надвор'е пройдзе пад знакам антыцыклонаў, адзначыў Дзмітрый Рабаў. Так, з чацвярга ўладарыць надвор'ем будзе антыцыклон з Еўропы, пад уплывам якога атмасферны ціск падрасце і дажджоў стане менш, кароткачасовыя дажджы і навальніцы чакаюцца толькі ў асобных раёнах. Тэмпература паветра ўначы складзе плюс 12—18 градусаў, у дзённыя гадзіны паветра прагрэецца да 24—29 градусаў цяпла.

У пятніцу таксама кароткачасовыя дажджы пройдуць у некаторых раёнах, прагрымяць навальніцы. Тэмпература паветра ўначы складзе плюс 12—18 градусаў, днём чакаецца ад 23 да 29 градусаў цяпла.

У выхадныя надвор'е пачне фарміраваць антыцыклон, які ўтварыўся над Балтыйскім морам. Пад яго ўплывам у суботу і нядзелю месцамі, пераважна ў паўночна-ўсходніх раёнах, пройдуць кароткачасовыя дажджы, прагрымяць навальніцы. Тэмпература паветра ўначы складзе плюс 13—19 градусаў, днём паветра прагрэецца да 21 градуса па паўночным усходзе, да 28 градусаў па паўднёвым захадзе краіны.

ПРОДОЛЖЕНИЕ ТЕМЫ

# Честь мундира

Нет ничего тайного, что не стало бы явным. Вот и кулуарный ответ на мои публикации "Король голый!" и "Открытое письмо" ("Народная Воля", 18 февраля 2014 г. и 6 мая 2014 г.) появился, и мне, пусть и тайком, удалось ознакомиться с его содержанием. В конце текста стояла подпись одного известного белорусского ученого. Подделка? Не думаю. В редакцию газеты заключение "факты не соответствуют действительности" пока не поступило и, скорее всего, не поступит — оно подготовлено для отчетности. К сожалению, мне не известны причины, заставившие вполне достойного человека поставить свою подпись под отпиской для внутреннего потребления.

Я химик — не агроном и не почвовед. Мне достаточно знания фундаментальных основ своего предмета, многолетнего опыта экспериментальной работы, анализа заслуживающих доверия публикаций, логического мышления и здравого смысла, чтобы не допускать нелепых просчетов в своей работе. А законы природы едины, и с этой точки зрения колба на химическом столе, наполненная реагентами, не так уж сильно отличается от почвы. Не думаю, что мои бывшие начальники позволят себе такую роскошь, как усомниться в моих профессиональных качествах, иначе неизбежно возникнет вопрос об их собственном служебном соответствии.

К сожалению, у нас принято сначала "осваивать" деньги, а потом ломать голову, что делать с последствиями "пионерских" решений и как уводить от ответственности тех, кто заметно поднялся материально, но так и не дал разумных и честных ответов на поставленные вопросы. Не дал по вполне понятным причинам — не смог в силу своей квалификации или не собирался, так как заведомо знал, что "своим" у нас все прощается, а их грехи старательно замалчиваются. "Беседы" с такими учеными об их провалах и способах "зарабатывания" денег бессмысленны. Потому факты, изложенные в моих статьях должны проверяться не контрактниками из соседних НИИ, а специалистами иного профиля и, возможно, в другом месте. Именно эти люди должны изучить финансовые документы, сопоставив списки исполнителей и получателей денег, и предложить всем участникам процесса выложить на стол свои рабочие журналы, указав разделы работы, выполненные каждым персонально, а при необходимости добиться независимой экспертной оценки качества научных отчетов. Ссылки проверяющих на отсутствие нужных специалистов скорее следует рассматривать как соучастие. Неплохо было бы попутно ознакомиться с мнением заказчиков, оплативших изыски ученых.

Что касается конкретной проблемы утилизации соляной кислоты на строящемся химическом заводе, то она до сих пор не решена, как бы ни хвалили себя исполнители. Заказчик так и не получил грамотного химического решения, хотя здорово потратился на оплату этой части проекта. Но если знания "избранных" ограничены таблицей растворимости химических соединений, то становится понятным, почему они так настаивают на правильности своего выбора — другого они не видят. Предложенная мной идея "круглого стола" заказчика почему-то не устроила, и я догадываюсь, почему. В суд за "клевету" на меня никто так и не подал, хотя был отличный шанс проучить "эту умную".

Вернемся к наболевшей теме — глинисто-солевым шламам и вариантам их возможного использования. Начнем танцевать от печки.

Какая задача ставилась изначально: улучшить качество и агрохимическую эффективность стандартного калийного удобрения, напичкав его отходами производства, или впарить кому-нибудь свою уже порядком надоевшую головную боль, разумеется, за деньги? Скорее, второй вариант, потому что первый невозможен. Нелепо выдавать за почвенный мелиорант смесь из поваренной соли, песка, полевых шпатов и т.д. только потому, что отдельные компоненты шламов (карбонаты, например) используются для известкования почв.

Флагман сражается за мизерные доли извлечения полезной компоненты из добытой руды, попутно подсчитывая свою будущую прибыль, но возросшие расходы потребителей удобрения "с нагрузкой" и интересы покупателей продуктовых магазинов почему-то учесть забыл. Сложные условия добычи сырья и утилизация отходов обогатительных фабрик — забота производителя. Если его расходы становятся сопоставимыми с доходами, он уступает место более эффективному конкуренту — это закон рынка. А перекладывать производственные проблемы на плечи родных потребителей... Как говорится, без комментариев.

Сократите непроизводственные издержки; прекратите финансировать сомнительные проекты и требуйте возврата денег при ненадлежащем выполнении тех, что достойны внимания; займитесь независимой экспертизой поступающих предложений и неукоснительно следуйте правилам конкурсного отбора; снижайте стоимость научной части работ, убирая при этом дорогостоящую иерархическую лестницу, поскольку до настоящих разработчиков доходят жалкие крохи. Резервов экономии достаточно. Даже эти шаги станут глотком свежего воздуха и кто-то из ученых, возможно, повременит с заявлением об уходе или отъездом за бугор. Не исключено, что тогда и грамотная утилизация шламов перестанет быть непосильным финансовым бременем.

К сожалению, заинтересованные лица ввели в заблуждение автора вышеупомянутой отписки. Отсюда его уверенность в том, что никто не планировал подменять стандартное калийное удобрение голыми шламами.

Мне, конечно, не все известно, однако имеющейся информации вполне достаточно, чтобы делать верные выводы. В частности, в пункт назначения ж/д вагоном прибыли три марки продукта, содержащие соответственно 10%, 20% и 50% хлористого калия, и все они ушли на испытания. Есть товарные накладные, рабочие журналы и утвержденные протоколы агрохимических опытов. Первая марка (10%) — собственно шламы. Два других варианта — смесь шламов с кондиционным хлоридом калия в разных пропорциях. И за все заплачено: за выпуск указанных опытных партий, за их доставку и за проведение полевых испытаний. Если было очевидно, что варианты 10% и 20% заведомо провальные, зачем грузили людей пустой работой и тратили лишние деньги?

Несложные расчеты показывают, что наилучшим способом разгрузки шламохранилищ является как раз выпуск "удобрения" марки 10%, что означает обычную сушку шлама без его облагораживания. Вариант 20% позволяет только лишь значительно снизить скорость накопления отходов. И оба эти варианта губительны для природы.

Калийное удобрение, разбавленное до соотношения 1:1 (вариант 50%), не решает проблем производителя, хоть и позволяет в краткосрочной перспективе смягчить негативные последствия использования "инновационного" продукта, поскольку ежегодная минимальная "норма" внесения поваренной соли на гектар пахоты снижается с 320—350 кг до 35—40 килограммов. Правда, с учетом того, что заводы строятся не на один-два сезона, а площадь наших пахотных угодий составляет более 5 млн га, нельзя исключить, что через двадцать лет применения такого калийного удобрения нашим детям и внукам придется зарабатывать не на хлеб, а на обычную питьевую воду. Получим крымский вариант: скважина есть, а питьевой воды нет. И что думают по этому поводу белорусские гидрогеологи? Или за ненадобностью от них успешно избавляются, как и от "неправильных" химиков, угрожающих сытой безмятежности "своих" людей?

Стоимость "пионерского" удобрения — отдельная тема. Этот вопрос лучше задать экономистам. При этом рассчитывать на то, что за "инновацией" выстроится очередь, могут лишь люди, живущие в мире абсурда и иллюзий.

Хочу отметить, что у меня нет никаких возражений против строительства самого завода. С единственным условием: сухой шлам будет возвращаться в шахтные выработки, чтобы раз и навсегда решить проблему его утилизации и сохранить нашим потомкам окружающую среду пригодной для проживания. Думаю, однажды мы выберем именно этот вариант, поскольку иного пути нет.

Судя по всему, авторы "пионерской" идеи понимали, что широкомасштабное использование их новшества приведет к плачевным последствиям, а потому предлагали, в частности, использовать его там, где негатив какое-то время будет менее заметным: для подкормки трав, лесов или в качестве сорбента-мелиоранта на радиоактивно зараженных территориях.

Пустые надежды!

Основу радиоактивного загрязнения почв после чернобыльской катастрофы составляют цезий-137 и стронций-90. За время, прошедшее после атомной аварии, радиоактивный цезий надежно и практически полностью связался компонентами почвы. Главное не тревожить ее. И "помощники", даже самые лучшие, почве уже не нужны. Опоздали на 28 лет. Что касается стронция, то прочно связать его можно только путем химического осаждения. Глинисто-солевым шламам с учетом их химического состава делать здесь нечего, а в натриевых удобрениях, особенно поваренной соли, ни лес, ни травы особо не нуждаются. За редким исключением большинство растений довольствуется тем количеством натрия, которое им обеспечивают естественные условия произрастания. Литературные ссылки полувековой давности на полезность сырого сильвинита (исходная калийная руда) для всех подряд растений сегодня неуместны.

Вернемся к "мелочи" — теоретической части проекта.

Вся экспериментальная лабораторная работа (безотносительно ее качества) выполнена с использованием глинистого минерала каолинита. Его среднее содержание в шламах ничтожно. К тому же каолинит хоть и входит в состав почв, в силу своих физико-химических свойств мелиорантом не является. Лепить из него керамическую посуду можно, а вот сознательно вносить в почву едва ли стоит. Почему этого очевидного прокола никто так и "не заметил" или, заметив, смолчал? Хотелось бы также детально ознакомиться со схемами проведения агрохимических опытов. Возможно, их анализ позволит дать разумное объяснение неожиданному росту урожайности некоторых культур на фоне лошадиной дозы поваренной соли. Или у нас появился шанс прорваться, перевернув вверх ногами мировую аграрную науку?

Я сожалею, что доказывать очевидное и задавать неудобные вопросы приходится, используя независимую газету, поскольку обращаться в наши не рецензируемые научные издания бессмысленно: едва ли кто-то поставит свою разрешительную подпись под подобным материалом. А общемировая практика в виде открытого обсуждения научных проектов нам, к сожалению, чужда: такой подход станет прямой угрозой тем, кто хорошо устроился возле научного корыта.

Так сколько стоит честь мундира, особенно если он сидит на "нужном " теле? Пусть каждый сам ответит на этот вопрос.

**Наталья ШУЛЬГА, кандидат химических наук, бывший старший научный сотрудник Национальной академии наук Беларуси.**

ГРАШОВАЕ ПЫТАННЕ

# Ці пабягуць беларусы ў банкі здымаць рублёвыя дэпазіты?

*З 16 ліпеня стаўка рэфінансавання ў Беларусі зніжаецца да 20,5 працэнта гадавых. Ці ёсць для гэтага перадумовы? Як гэта адаб'ецца на працэнтных стаўках па дэпазітах насельніцтва? Ці пабяжыць народ здымаць свае рублёвыя ўклады? Аб гэтым распавядае фінансавы аналітык афіцыйнага партнёра кампаніі "Альпары" ў Мінску Вадзім ІОСУБ.*

Рашэнне аб зніжэнні стаўкі рэфінансавання з 21,5% да 20,5% прынята праўленнем банка, паведаміла журналістам старшыня праўлення Нацыянальнага банка **Надзея ЕРМАКОВА.**

З пачатку года гэта ўжо трэцяе зніжэнне, папярэднія былі ў красавіку і маі. Тады стаўка таксама зніжалася на 1%.

— Чарговае зніжэнне стаўкі рэфінансавання было чаканым, бо ўжо некалькі месяцаў Нацыянальны банк дэкларуе палітыку паступовага зніжэння працэнтных ставак, — адзначае фінансавы аналітык. — І робіць гэта дастаткова акуратна. Зараз Нацбанк спасылаецца на тое, што ў чэрвені інфляцыя была невялікая для краіны — 1,2 працэнта за месяц, але замаруджванне інфляцыі на прыкладзе аднаго месяца — гэта не паказчык. Па адным месяцы проста немагчыма меркаваць аб тым, што інфляцыйныя працэсы замарудзіліся. Аднак стратэгічнае рашэнне зніжаць стаўку рэфінансавання прынята. Думаю, яна будзе зніжацца і надалей. Магчыма, такімі ж тэмпамі — на 1 працэнтны пункт за два месяцы.

**— Ці прывядзе зніжэнне стаўкі рэфінансавання да далейшага зніжэння працэнтных ставак па дэпазітах насельніцтва?**

— У нас і без гэтага рашэння апошнія паўгода назіраецца паступовае зніжэнне працэнтных ставак па дэпазітах. Розныя банкі робяць гэта рознымі тэмпамі, але тэндэнцыя ёсць. Значыцца, назіраецца адток з банкаў рублёў. І тыя банкі, якія з гэтым сутыкнуліся, наўрад ці будуць далей зніжаць стаўкі.

**— Як насельніцтва адрэагуе на зніжэнне ставак па дэпазітах?**

— Рэакцыя ўжо відавочная. У сакавіку-красавіку прыток рублёвых дэпазітаў быў нулявы, а ў маі людзі пачалі забіраць грошы. Можна спрагназаваць, што гэты працэс працягнецца, хоць пакуль і не прыводзіць да дэфіцыту рублёвай ліквіднасці. У мінулым годзе назіралася падобная сітуацыя, і тады банкі вымушаны былі рэзка павялічыць працэнтныя стаўкі па дэпазітах.

**— Але рублёвыя ўклады пакуль па-ранейшаму больш прывабныя, чым валютныя?**

— Пакуль што так.

**Алесь СІВЫ.**

## ТЫМ ЧАСАМ

Вядучыя камерцыйныя банкі, у якіх знаходзіцца больш за 80% рублёвых зберажэнняў насельніцтва, прынялі рашэнне знізіць працэнтныя стаўкі па тэрміновых дэпазітах.

Паводле інфармацыі БелаПАН, банкіры чакаюць, што трэнд на зніжэнне ставак па ўкладах працягнецца да верасня.

Варта зазначыць, што рашэнні аб зніжэнні працэнтных ставак па рублёвых укладах банкі прынялі пасля паступлення ў склад золатавалютных рэзерваў брыдж-крэдыту "Банка ВТБ" (Расія) на 2 млрд долараў.

На фоне павелічэння рэзерваў, якія забяспечваюць стабільнасць курсу рубля, насельніцтва даволі спакойна ўспрымае рашэнні банкаў аб зніжэнні даходнасці па рублёвых укладах, канстатуюць банкіры.

*"Пакуль стаўкі па тэрміновых укладах будуць заставацца вышэйшымі за 30% гадавых, насельніцтва будзе працягваць захоўваць зберажэнні ў рублях",* — заявіў топ-менеджар аднаго з камерцыйных банкаў.

ПРАГНОЗЫ

## Ермакова: курс долара ў канцы 2014 г. будзе 10.700—10.800 рублёў

Курс долара на канец 2014 года складзе 10.700—10.800. Пра гэта ў размове з карэспандэнтам "Еўрарадыё" заявіла старшыня Нацбанка Беларусі **Надзея Ермакова** падчас жывой лініі.

*"У нашых разліках мы выкарыстоўваем курс 10.700—10.800 на канец 2014 года. Каб наш рубель не толькі ў намінальным вылічэнні, але і ў рэальным "адчуваў" сябе добра. Мы і надалей будзем праводзіць палітыку плаўнай дэвальвацыі",* — паведаміла яна.

ЗАПРАШЭННЕ

# ...А дома цкуюць

Верніка-каталіка **Аляксея Шчадрова,** які стварыў прытулак для бяздомных у вёсцы Аляксандраўка Шчучынскага раёна, запрасілі на сустрэчу ў Ватыкан да Папы Рымскага. Нагадаем, што дома ў Беларусі за тое самае на Аляксея нават заводзілі крымінальную справу.



Пра што хоча распавесці Папе Рымскаму просты беларус?

"У мяне да Папы Рымскага тры пытанні, — кажа ён. — Я буду прасіць яго дапамагчы нам зарэгістраваць суполку братоў-місіянераў міласэрнасці, узніму перад ім пытанне аб кананізацыі Маці Тэрэзы з Калькуты і папрашу дапамогі, каб мы маглі ездзіць па ўсім свеце і адкрываць рэлігійныя суполкі накшталт нашай. Канечне, я распавяду пра тое, як на самай справе выглядае тут наша жыццё. Распавяду, што касцёл у нас бездапаможны, што біскуп не ў сілах дапамагчы тым, хто займаецца бяздомнымі, і мітрапаліт Кандрусевіч не ў сілах. Ну ніхто..."

Заснавальніку прытулку для бяздомных Аляксею Шчадрову — 29 гадоў. Родам ён з Віцебскай вобласці, скончыў медыцынскае вучылішча, мае дыплом фельчара, працаваў на "хуткай дапамозе". Потым у жыцці Аляксея быў складаны перыяд: за тое, што краў і прадаваў медыцынскія прэпараты, ён адбыў два гады за кратамі. У калоніі пакаяўся, стаў шчырым вернікам і на волі заняўся дабрачыннасцю — адкрыў у вёсцы Аляксандраўка Шчучынскага раёна прытулак для бяздомных і былых алкаголікаў. Замест таго каб дапамагчы добрай справе, беларускія ўлады распачалі сапраўднае паляванне на Аляксея і тых, хто яму дапамагае.

**Надзея МАРКОЎСКАЯ.**

ПОГЛЯД

# Спыніцеся!

Драматычныя падзеі ва Украіне з канца 2013 года і да цяперашняга часу адбываюцца, можна з упэўненасцю сказаць, толькі па віне Пуціна, Януковіча, Азарава і другіх прарасійскіх чыноўнікаў, якія робяць усё для таго, каб утрымаць яе пад сваім уплывам. Яны на пачатку сарвалі падпісанне асацыяцыі з Еўрасаюзам, чым парушылі надзею нацыі на перамены. Разам з тым усплыло пытанне аб карупцыі. Народ выйшаў на Майдан з надзеяй адстаяць свае правы. Людзі ўпэўнены, што толькі побач і разам з ЕС праз невялікі час Украіна будзе дэмакратычнай, высокаразвітай, перадавой краінай. А з шавіністычнай Расіяй — гэта шлях у нікуды, ніякай будучыні і развіцця, а толькі застой і небяспека незалежнасці.

Такую сітуацыю мы бачылі і ў Беларусі. Пасля развалу савецкай імперыі ў нас эканамічныя пазіцыі былі лепшыя, чым нават у Польшчы. Але паглядзіце, дзе з дапамогай ЕС Польшча, а дзе мы, беларусы. Пайшоўшы *"па асобным шляху"* за Расіяй, мы падселі на газавую і нафтавую іглу, ператварыліся ў *"халяўшчыкаў"*, праядаючы расійскія крэдыты і падачкі, залезлі ў даўгавую яму і *"добра жывём"*, як некаторыя кажуць, не думаючы аб будучыні нашых дзяцей і нашай Радзімы.

Выдзяляючы крэдыты, Расія наўмысна рабіла і робіць вельмі дрэнную паслугу Беларусі, перашкаджаючы раскансерваванню палітычнага, эканамічнага, духоўнага застою. Тое самае Расія хацела і хоча зрабіць з Украінай, нават шляхам вайны, крыві. Беларусь ужо ператворана ў іхні плацдарм. Украіна ж не пажадала лезці ў гэтую пятлю. Такі паварот Украіны да Еўропы быў вельмі непажаданым для Расіі. Яна ўжо бачыла Украіну ў Мытным саюзе, таму з боку Расіі было ўключана ўсё: бессаромная агрэсія, сепаратызм, неймаверная хлусня, хамства, бескультур'е, якое лілося і льецца з экранаў БТ, дапускаюцца нават збэшчванне і зневажанне ўкраінскага народа.

Калі ў Пуціна так нечакана з'явілася любоў да рускіх Крыма, дык зрабіце ім умовы, каб яны вярнуліся жыць у Расію. Але не патрэбна гэта Пуціну, яму патрэбны Крым, а то і ўся Украіна. Вельмі здзіўляе нечалавечае жаданне Расіі любымі сродкамі, нават неймавернай хлуснёй, агрэсіяй, гвалтам, развязваннем вайны не дапусціць нацыянальнага адраджэння Украіны, Беларусі і другіх краін СНД, а толькі падмяць, падпарадкаваць, адхапіць хоць кавалак другой дзяржавы. Калі намаганнямі ўсяго свету не астудзіць Пуціна, не спыніць агрэсіўны шавінізм, Расія пойдзе далей на другія краіны. Яна ўжо зрабіла гэта з Грузіяй, Малдовай, Чачнёй... Не адчуўшы адпору з боку ўсяго свету, Расія дойдзе і да Еўропы. Успамінаюцца размовы, якія я чула ў дзяцінстве ад старых людзей, выказванні Кацярыны II, Мураўёва-вешальніка, ката беларускага народа Суворава, цара Мікалая. Гэтыя людзі мэтанакіравана дабіваліся, каб мы забыліся, хто такія, і дамагаліся гэтага шляхам пагалоўнай русіфікацыі, праваслаўным гвалтам, прызначэннем на ўсе пасады толькі рускіх чыноўнікаў. Нешта падобнае бывае і цяпер. Расія енчыць, што рускім не вельмі камфортна жыць у Літве, Латвіі, Эстоніі, Украіне і іншых краінах, але ў саму Расію яны не едуць, бо ведаюць, што там будзе горш.

У Беларусі рускія не енчаць, адчуваючы сябе гаспадарамі. Захацелі — і, не лічачыся з жыхарамі Мінска, знеслі аўтавакзал "Маскоўскі", захацелі — і пасадзілі ваенныя самалёты. Хто сёння можа купляць новыя кватэры ды дамы? Яны! Аналізуючы, як развіваліся падзеі ў Крыме, разумееш, што Расіяй створаны ўсе ўмовы і магчымасці за адзін дзень анэксіраваць нашу Радзіму і ўключыць яе ў склад Расіі. Як наша ўлада (і ў першую чаргу А.Лукашэнка) не разумеюць (а я думаю, што ён ужо добра разумее), што нарабілі, куды ўцягнулі нас з гэтымі саюзамі ды Саюзнай дзяржавай. Бо цяпер, акрамя эканамічнай, палітычнай залежнасці і адсталасці, мы маем пагрозу страты суверэнітэту і незалежнасці.

Але вернемся да ўкраінскіх падзей.

Мы, большасць адукаваных беларусаў, вельмі паважаем і сардэчна падтрымліваем Украіну і яе народ за іх вытрымку, культуру, за адсутнасць агрэсіі. Назіраючы за дзеяннямі рускай большасці, што галасуе за вайну, за новыя ахвяры, новыя пахавальныя, новых сірот, я хачу сказаць толькі адно: "Спыніцеся!".

**P.S.** Мне 76 гадоў, пісаць ужо цяжка, бо рукі дрэнна слухаюцца. Гэта, напэўна, маё апошняе пісьмо. Таму, калі можна, хоць карацей, але змясціце мае думкі на старонках нашай "Народнай Волі".

З павагай да калектыву газеты "Народная Воля" —

**Ніна Аляксандраўна КРАСУЦКАЯ.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

# *Апостал Пятро «прасветліць» нутро...*

**Скульптар і грамадскі актывіст Генік Лойка судзіцца з КДБ і "Белінвестбанкам", адстойваючы свае права на карыстанне беларускай мовай. Аднак разгляд скаргі адкладваецца на няпэўны тэрмін, таму што суддзі... будуць шукаць беларускамоўнага перакладчыка.**

*Жыццё складалася з пакут*
*І на грахі спакусаў...*
*Нарэшце Бог*
*На Страшны суд*
*Паклікаў Беларуса.*
*За справы добрыя, грахі*
*(Ці мала іх, ці многа)*
*Яны, "нябесныя вярхі",*
*Спытаюць вельмі строга.*
*Прысуд свой вынесуць яны —*
*Спагадны ці суровы.*
*А Беларус — ён не дурны,*
*Ён да Суда гатовы.*
*І пералік сваіх заслуг*
*Накрэмзаў на паперы,*
*Каб на Судзе нячысты дух,*
*Нахабны, злы без меры,*
*Як кажуць, не заплёў язык*
*І не навёў сурокі.*
*Тады, магчыма, "пык" ды "мык"*
*Пачуе Суд высокі.*
*Той спіс добрапрыстойных спраў*
*Вялікім быў даволі:*
*Не забіваў,*
*Тым больш не краў,*
*Не рабаваў ніколі.*
*Калі з вайной ішоў сусед*
*І толькі крок — да згубы,*
*Адказваў Беларус як след —*
*Даваў суседу ў зубы.*
*А як сусед на перакус*
*Не меў скарынкі хлеба,*
*Дык з ім дзяліўся Беларус,*
*Лічыў, што так і трэба.*
*Прыстойных нарадзіў дзяцей,*
*Не ленаваўся ў працы,*
*А перад смерцю найчасцей*
*"За гуж" прыйшлося брацца.*
*Грахі ўпісаў таксама. Хоць,*
*Каб лепшым паказацца,*
*Пра іх згадаў ён мімаходзь —*
*Адным "сляпым" абзацам:*
*З чужою жонкаю блудзіў,*
*Хадзіў парой "налева".*
*Ды толькі гэтае не ўздзіў,*
*Бо спакушала й Ева...*
*Упэўнены, што ён не хлус,*
*Што перад Богам чысты,*
*Ступіў у залу Беларус —*
*Узнёслы і ўрачысты.*
*Шчаслівая душа-нутро,*
*Настрой зусім вясёлы!*
*У зале той сядзеў Пятро,*
*А па баках — анёлы.*
*І Беларусу (так лічыў)*
*Не трэба адваката.*
*Суддзю паляпаў па плячы,*
*Як сват падпіты свата.*
*— Кіруй мяне адразу ў рай! —*
*Сказаў Пятру і свіце. —*
*Заслуг я маю — цераз край.*
*Во мой даклад, зірніце!*
*Я толькі й марыў: як памру,*
*Аддам за рай кватэру! —*
*І сунуў Беларус Пятру*
*Як доказ спіс-паперу.*
*Апостал, глянуўшы на спіс,*
*Не зразумеў нічога,*
*Таму адразу тварам скіс:*
*— Ты з чым прыйшоў да Бога?*
*Даведка — вось яе вазьму —*
*Ляжыць напагатове:*
*Ты — Беларус. Але чаму*
*Даклад на рускай мове?*
*Даў мовы асабіста Бог*
*Для ўсіх народаў-нацый,*
*Каб кожны з вас, зямлянаў, мог*
*Паміж сабою знацца,*
*Каб на гаворцы той прынёс*
*Для Бога справаздачу*
*Пра свой наканаваны лёс.*
*Ты ж пустадомак, бачу,*
*Бо збэсціў Божы запавет*
*І плюнуў ты на Бога.*
*Таму не ў рай табе білет,*
*А ў пекла-ад дарога.*
*Адчайна ўскрыкнуў Беларус:*
*— Дык дзе ж твая спагада?*
*Зрабіла ў клёпках ператрус,*
*"Зрусець" памкнула ўлада.*
*Не чуў я "мовы" з першых дзён*
*І пачуваўся хвацка,*
*Бо гаварыў па-руску Ён —*
*І Бог, і Цар, і Бацька...*
*Аднак Пятро яго абсек:*
*— За ўчынак-грэх нячысты*
*Павінны кожны чалавек*
*Адказваць асабіста.*
*А ўсіх, хто каламуціў вас,*
*Тлуміў галовы людзям,*
*Мы пасля смерці —*
*Прыйдзе час! —*
*Напоўніцу асудзім.*
*Я сам іх потым адвяду*
*У катавальню тую,*
*Дзе Люцыфер скавараду*
*Ужо цяпер рыхтуе...*

ДОБРЫЯ ЛЮДЗІ

# «Вы мая мама...»

*...І каштаны, што садзілі,*
*Ўжо даўно павырасталі,*
*І сцяжынкі, дзе хадзілі,*
*Ўжо травой пазарасталі.*
*Колькі тут было пражыта!*
*Боль, і радасць, і трывога...*
*І нічога не забыта,*
*Хоць гадоў мінула многа.*

Гэтыя радкі Лідзія Іванаўна Нічыпар прысвяціла Дзятлаўскай школе-інтэрнату, дзе, можна сказаць, прайшло ўсё яе жыццё. У працоўнай кніжцы толькі адзін запіс: "Прынята на работу". Адсюль і на пенсію пайшла. Амаль паўвека прысвяціла навучанню і выхаванню чужых дзетак, якія сталі ёй роднымі. Была выхавальніцай, потым намеснікам дырэктара па выхаваўчай рабоце. Зноў выхавальніцай. Не проста адбывала тут належны час, а жыла жыццём сваіх хлопчыкаў і дзяўчынак, як гэта ні банальна гучыць, аддавала ім цяпло сэрца. І пакутавала, і радавалася разам з імі. Як, напрыклад, з Валяй Краеўскай. Дзяўчынка вучылася ў школе-інтэрнаце 10 гадоў і ўвесь час лічылася, што ў яе нікога няма. Але Лідзія Іванаўна з дапамогай сваіх родных знайшла і яе маму, і бабулю з дзядулем. Бабуля з дзядулем жылі ў Шчучынскім раёне і з радасцю прынялі ўнучку. Мама ж пасялілася ажно ў Падмаскоўі, і Валя паехала на сустрэчу з ёй. Колькі было радасных надзей, тым больш што там гадаваліся і дзве яе сястрычкі! Аднак мама не прыняла дзяўчынку ў сваё сэрца. Вярнулася Валя сумная і расчараваная. Абняўшы Лідзію Іванаўну, прашаптала:

— Вы мая мама...

Колькі такіх прыкладаў было за 44 гады — не злічыць.

Гэтая цудоўная жанчына не толькі таленавіты педагог. Яна піша шчырыя вершы, іграе на многіх музычных інструментах, хораша спявае, малюе. Нездарма ўсе 44 гады вяла ў школе-інтэрнаце гуртор выяўленчага мастацтва і адкрывала для дзяцей яго чароўны свет. Для многіх гэта стала справай усяго жыцця. Так, Васіль Бортнік скончыў Маскоўскі мастацкі інстытут імя Сурыкава, ладзіць персанальныя выставы. Мастакамі сталі Аляксандр Верабей і Алена Кісляк.

Лідзія Іванаўна цікавіцца жыццём усіх сваіх выхаванцаў і шмат ведае пра іх. Вельмі ганарыцца, што ёсць сярод іх людзі розных прафесій.

— І нават адзін паэт! — кажа з гонарам. — Гэта Уладзімір Ягоўдзік. Добрыя вершы піша!

Шмат гадоў таму яна выйшла замуж за свайго калегу Уладзіміра Нічыпара.

— Мы абое вучыліся ў Гродзенскім педінстытуце, — успамінае Лідзія Іванаўна, — а сустрэліся праз 10 гадоў пасля яго заканчэння. І пажаніліся.

Нічыпары выгадавалі дваіх слаўных дзяцей. І дачка Вольга, і сын Дзіма скончылі школу з залатымі медалямі і ўніверсітэты з чырвонымі дыпломамі. Цяпер Дзіма жыве і працуе ў Мінску. Ажаніўся, мае дачушку. Вольга — у Італіі. Жыве ў Рыме, працуе перакладчыцай у турыстычным агенцтве. Таксама мае сваю сям'ю. Кожны год прыязджае дадому, і, калі ад'язджае назад, маміна сэрца напаўняецца тугой. З-пад пяра выходзяць вершаваныя радкі:

*Я знаю, цябе не трымаю,*
*Як птушачка з клеткі,*
*Ты пырхнеш на волю.*
*Ды толькі наказ да цябе, дзетка, маю:*
*Каб ты Беларусь не забыла ніколі!*

Лідзія Іванаўна даўно піша вершы, але за бясконцымі працоўнымі і хатнімі клопатамі, амаль нікому іх не паказвала. Толькі дзецям сваім чытала, як падраслі, ды мужу. Ну, іншы раз і выхаванцам. А як пайшла на пенсію, стала хадзіць на пасяджэнні літаратурнага аб'яднання "Пралескі", не раз друкавалася ў рэгіянальнай "Газеце Слонімскай".

Запаветнае месца для Лідзіі Іванаўны Нічыпар — вёска Прудцы, што ў Шчучынскім раёне. Паўміралі бацькі, разляцеліся па свеце браты і сёстры. Родная хата стаіць у адзіноце. А памяць сэрца жыве, баліць і кліча да роднага парога. І нараджаецца пажаданне-просьба да ўсіх, хто зараз далёка ад родных гоняў:

*Беражыце памяць аб маленькіх вёсках,*
*Аб драўляных хатах, дзе прыйшлі на свет.*
*Аб блакітных ў полі ільняных палосках.*
*Беражыце продкаў нашых запавет!*
*Беражыце памяць аб барах смалістых,*
*Аб крынічках тых, што рвуцца з-пад змялі,*
*Што давалі сілу і парыў агністы,*
*Каб жыцця віхуры мы перамаглі.*
*Не забудзьце казкі, песні і паданні,*
*Што з дзяцінства чулі ў вёсачцы сваёй,*
*Не парвіце вечна кроўнае яднанне*
*З вашаю радзімаю малой!*

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

*Дзятлаўскі раён.*

**Сустрэча з выпускнікамі школы-інтэрната амаль праз сорак гадоў (Лідзія Іванаўна Нічыпар у першым радзе другая злева).**

ПРАПАНОВА!

# *...І скажа народ сваё слова*

Вобразна кажучы, апазіцыйныя партыі спяць у шапку. Да чарговых прэзідэнцкіх выбараў засталося зусім мала часу, а для таго, каб яны прайшлі дэмакратычна, без фальсіфікацый, ніхто нічога не робіць.

У мяне ёсць прапанова. І зыходзіць яна з выказванняў самога Аляксандра Лукашэнкі. Помніце яго словы, што ён гатовы пайсці ў адстаўку, калі народ папросіць? Дык чаму не папрасіць?

Як гэта зрабіць? Згодна з артыкулам 74 Канстытуцыі, грамадзяне маюць права на збор 450 тысяч подпісаў, каб ініцыяваць правядзенне рэферэндуму. На рэферэндум павінны быць вынесены два пытанні: "Ці згодны беларускі народ, каб А.Лукашэнка добраахвотна пакінуў сваю пасаду?" і "Ці згодны беларускі народ на будаўніцтва атамнай станцыі ў краіне?". За некалькі месяцаў апазіцыя можа назбіраць не 450 тысяч подпісаў, а два-тры мільёны, каб Лукашэнка да прызначэння даты правядзення рэферэндуму ўжо ведаў волю народа. Калі А.Лукашэнка разам са сваім парламентам не прызначыць рэферэндум, дык будзем лічыць, што ён баіцца волі народа і наўмысна парушае Канстытуцыю. Вось тады будуць усе падставы аб'явіць байкот Лукашэнку з выхадам людзей на Плошчу.

Калі дата правядзення рэферэндуму будзе аб'яўлена, тады ў законным парадку паўстане пытанне аб змене складу выбарчых камісій і адстаўцы Л.Ярмошынай. Пакідаць выбарчыя камісіі ў старым складзе нельга. Неабходна, каб у іх увайшлі прадстаўнікі ўсіх палітычных партый.

І яшчэ прапаную звярнуцца ў Канстытуцыйны суд наконт разгляду на адпаведнасць Канстытуцыі закона аб забароне байкоту выбараў. Тут, як мне здаецца, парушаны артыкул 65 Канстытуцыі і правы грамадзян.

Вось да здзяйснення такога сцэнарыя, лічу, павінны тэрмінова прыступіць усе апазіцыйныя палітычныя партыі. Калі яны яшчэ чагосьці вартыя.

**Алесь ЗАРАНОК.**

*г.Калінкавічы.*

АКЦЕНТЫ

# Печаль Виктора Дашука

*Публикации Виктора Дашука подобны молниям и откликаются громом в общественном мнении. Они не оставляют равнодушными читателей. Трехполосное эссе "Последний репортаж из клетки для кроликов" (№41, 30 мая 2014 г.) также стало событием в насыщенной информацией "Народной Воле".*

*В своем эссе Виктор Дашук высветил главные проблемы нашей жизни, выплеснул боль души гражданина и патриота, всколыхнул сознание читателей газеты.*

## О братцах-кроликах и сталкере-баране

В июне 1995 года Виктор Дашук в своей статье *"Я не хачу, каб лёс беларусаў быў падобны на лёс вымершага народа майя"* призывал граждан Беларуси воспользоваться шансом и стать самостоятельным народом. Не получилось. Страна не смогла стать независимой в отношениях с Россией и стала жить "в долг", отдав территорию под военные базы и приняв "на вооружение" русский язык, культуру и церковь.

По словам В.Дашука, народ почти 20 лет равнодушно наблюдал ползучий аншлюс с Россией и также равнодушно взирал на белорусских оппозиционеров, пытавшихся взывать к его самосознанию. По мнению автора, среди белорусов нет людей, готовых умирать за свободу.

Вот такая печаль у Виктора Дашука, который все это время находился в положении "врага народа" и подвергался всяческой дискриминации. Мне это близко и понятно, так как сам нахожусь в подобном положении.

Но что поделаешь?! Как признает В.Дашук, *"надо правде смотреть в глаза"*. Такова натура ("толерантность") белорусов, вынужденных приспосабливаться к нравам более сильных и воинственных соседних народов.

А тут еще опостылевшая всем власть, *"циничная и наглая в своих фальсификациях на выборах"*. Она, как тот баран-сталкер, ведет стадо овец на заклание, оставаясь целой и невредимой от выборов к выборам. Генофонд нации с годами ослабевает, а власть все укрепляется.

Последний репортаж ("крик") из клетки для кроликов услышан, но "кролики" спокойны и равнодушны к происходящему. А что они могут сделать, если они всего лишь кролики, да еще в клетке?

## О «братстве» кролика и удава

Еще одна беда братцев-кроликов состоит в том, что рядом с их клеткой расположился удав, который гипнотизирует их своим взглядом и дыханием.

Да, надо смотреть правде в глаза! После третьего раздела Речи Посполитой в 1796 году Екатерина II издала указ, в котором повелела "Великое Княжество Литовское впредь именовать Белой Русью, а народ ее — белорусами". И, как следует из документа, миссия по закабалению Белой Руси была возложена "на русского чиновника, русского учителя, русского попа".

Следует признать, что эту миссию царская Россия, а затем — советская Россия (под флагом СССР) в значительной степени выполнила. Сейчас наступили другие времена, хотя политика "братства" продолжается. Теперь — под флагом Евразийского экономического союза.

В статье говорится об опасности "братства" кролика и удава.

## О цинизме власти

Виктор Дашук очень критичен по отношению к власти как в Беларуси, так и в России. Эта власть беспощадна ко всем своим противникам, явным и скрытым. Море людской крови за время "общения" двух соседних стран, за время "отечественной" войны и сейчас, в период "разборок" с Украиной.

Самое страшное, по мнению В.Дашука, когда правитель считает себя великим и бессмертным. Тогда он может шагать "по лужам крови".

Зачем и кому нужна такая власть? Этот вопрос остается без ответа.

## О дороге к храму

В.Дашук пишет о несправедливости, которая захлестнула нашу жизнь. И основным ее субъектом и катализатором он называет власть во всех ее проявлениях. Он упоминает об институте "стукачества", который широко используется спецслужбами, о "боевиках" спецназа, готовых выполнить любой приказ, о двурушничестве некоторых служителей церкви, которые служат и Богу, и Мамоне.

В.Дашук призывает в последний раз белорусское общество к очищению, к покаянию, к вере. Он просит Небеса вернуть белорусскому народу свободу, национальные ценности, справедливую власть. Только тогда для нас откроется дорога к Храму.

От себя добавлю: "кроликов" надо выпустить из клетки, тогда они станут свободными зайцами, и их "удав" не догонит. Да и сталкер-баран им будет ни к чему. Вприпрыжку они убегут в Европу, оставив "удава" горевать на своей "делянке".

**Михаил ПАСТУХОВ, гражданин, который не желает быть "кроликом".**

МНЕНИЕ

# «Постгорбачевская травма»

Упорное нежелание проводить хоть какие-то реформы, даже чисто экономические, твердокаменная приверженность политике "стабильность любой ценой" очень характерны для некоторых постсоветских государств. В том числе и для нашей страны. И дело, как мне кажется, не только в желании правителей сохранить власть, хотя и этот фактор присутствует. Ведь зачастую именно политика "стабильность превыше всего" и ставит саму власть под угрозу. Бывает, и сама власть уже начинает понимать, что пресловутая "стабильность" приводит к снижению конкурентоспособности экономики, ведет страну по пути деградации и упадка, но реформ все равно не проводит. Более того, блокирует любые реформы или хотя бы тормозит, если не может полностью заблокировать. Так что, когда отсутствие реформ начинает угрожать уже и устойчивости самой власти, трудно говорить, что перемены блокируются только ради удержания власти. Мне кажется, тут играет роль и негативный опыт недавней истории. Так создается устойчивое впечатление, что горбачевский опыт "перестройки", закончившейся развалом СССР, вызвал психологическую травму у некоторых руководителей постсоветских государств, что теперь выражается в неприятии ими любых "перестроек" и реформ. А поскольку власти знают, что многое в их системах и "уникальных моделях" подгнило, то боятся трогать, чтобы все не рухнуло, как СССР.

Между тем перестройка советской системе действительно была крайне необходима. Советский Союз, который к концу 60-х годов прошлого века если не по уровню жизни, то по уровню технологий практически догнал США (а в некоторых отраслях и опередил), с наступлением "эпохи застоя" стал сдавать позиции. А к середине 80-х годов прошлого века нарастающее отставание СССР от США стало уже очевидным для всех. Как и необходимость каких-то перемен для придания советской системе динамики. Андропов попытался начать реформы, но не успел, быстро ушел из жизни. Горбачев лишь дал старт тому, что уже давно назрело. Беда Горбачева в том, что он смог начать преобразования, но не смог их возглавить. В результате перемены вышли из-под контроля, и ситуация стала неконтролируемой. Вот именно этого многие из сегодняшних правителей боятся и, видимо, поэтому так озабочены сохранением "стабильности", пусть это даже и стабильная деградация. Лишь бы не обвал гнилого строения из-за попытки ремонта.

Но катастрофой "перестройки" заканчивались не всегда и не везде. Довольно часто результат масштабных реформ был весьма позитивным. В послевоенных Германии и Японии, позднее в Сингапуре, Южной Корее и Китае власти не только начали реформы, но и смогли возглавить преобразования. И результат был гораздо позитивнее горбачевского. Так что гибельны не реформы как таковые, а неумение их проводить и ими руководить. К тому же отсутствие перемен на самом деле совсем не гарантирует долговременную стабильность, иногда блокирование реформ не менее гибельно, чем их неумелое проведение.

Вот Николае Чаушеску, Саддам Хусейн, Хосни Мубарак, Муаммар Каддафи, Виктор Янукович и многие другие никаких реформ не проводили, во всяком случае в последние годы своего правления (Янукович вообще не проводил, был сильно занят переделом собственности), свято блюли принцип "стабильность любой ценой", но вот как-то не соблюли. Назревшие и перезревшие перемены все равно произошли, несмотря на подавление любого инакомыслия и выкорчевывание любых ростков перемен. Произошли, хотя власть их и не инициировала и не возглавляла, да в общем-то никто поначалу не возглавлял. И кончилось это весьма трагично не только для самой власти. Хаотичные, неконтролируемые перемены — это и для народа совсем не мед, и для реальных инициаторов "реформ-революций" не подарок. Так что если уж перемены назрели, то лучше их проводить планово и под контролем.

На фоне продолжающегося снижения эффективности нашей экономики, падения ее конкурентности и появления новых внешнеполитических угроз у нашей власти остается, может быть, последний шанс сохраниться и сохранить реальную стабильность в стране — это инициировать и возглавить реформы.

Если же власть продолжит работать в режиме торможения любых реформ, то долго ей уже не продержаться. Ресурсов для сохранения "стабильности" у нее уже почти не осталось. Значит, страна скоро окончательно потеряет конкурентоспособность во всех смыслах и нас или "раздавят", или "проглотят". Нынешний мир довольно жесток, и со слабыми в нем не церемонятся.

**Юрий ПШЕННИК.**

*Минск.*

